Opłatą pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Непрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 10 (23). Вільня, Субота, 6-га лютага 1926 г. Год II.



## Жыруюць на мандаты.

У цэлым радзе карэспандэнцыяў з вёсак Заходняе Беларусі чытаем аб тым, што розныя польскія партыі, памятаючы, што на апошніх выбарах у Сойм і Сэнат „вызваленцы“ сваімі ілжывымі абяцанкамі здалелі здабыць палову ўсіх сваіх мандатаў — у нашых сялян, распачалі ізноў агітацыю ў нас, рыхтуючыся да новых выбараў. Нашу вёску закідваюць агітацыйнай літэратурай і польскімі газэтамі розных кірункаў; наведываюцца і польскія агітатары, як правыя, так і пэпээсаўскія. І ўсе яны прадстаўляюць сябе самымі лепшымі прыяцелямі працоўнага сялянства, усе яны бяруцца „ашчасьлівіць“ нашага малазямельнага і беззямельнага хлебароба.

Наскольні яны заслугуюць на даверые нашага народу, даволі ясна паказала ўся іх „праца“ ў Сойме. Перад усім „вызваленцы“, якія на выбарах пісалі, што дадуць нам зямлю, выжануць асаднікаў ды завядуць беларускія школы (—а навет сулілі Заходняй Беларусі аўтаномію!), — нічога з гэных шчодрых абяцанак ня споўнілі. Наадварот: яны разам з польскімі абшарнікамі і сялянамі-кулакамі (пястоўцамі), ды ў супольцы з ілжывымі прадстаўнікамі польскіх работнікаў—пэпээсамі правялі ў Сойме новы „зямельны закон“, які толькі мае насадзіць нам новых асаднікаў ды ласкава „пазваляе“ нам з вольнае рукі па няпрыступным цэнам купляць у паноў зямлю, якая па праву нам ужо бяз ніякіх выкупаў належыцца;—яны правялі „языковыя ўставы“, якія зьліквідавалі аканчальна ўсе існаваўшыя яшчэ перад тым беларускія дзяржаўныя школы і далі нам нейкую карыкатуру „двуязычнае“ школы, дзе „пабеларуску“ выкладаціmуць... гімнастыку ды рысаваньне! Ну, а аб нейкім самаўрадзе, ня кажучы ўжо аб аўтаноміі, дык і гаварыць не даявялося....

Разумеючы, што пад старымі ашуканскімі фірмамі да нашых сялян прыступіцца цяжэр будзе цяжэй, „вызваленцы“ і ім падобныя ласуны на беларускія галасы на новых выбарах маняцца выступаць у нас ужо пад новымі назовамі і з новымі праграмамі. Старыя партыі ламаюцца, дзеляцца, ды з тых-жа людзей, якія так ганебна ашуківалі беларускага селяніна, творацца нейкія новыя. І ўсе яны называюць сябе партыямі „сялянскімі“.

Вялікая гэта і важная справа—арганізацыя сялянства. Ясна, што ў дзяржаве, у якой сяляне складаюць 70% усяго насяленьня, той будзе мець рашаючую большасьць у Сойме і ў урадзе, хто здолее павясьці за сабой сялянства. А сялянства гэнае—асабліва польскае па нацыянальнасьці—пераважна цёмнае, абаламучанае сваімі ворагамі-панамі і іх саюзьнікамі ксяндзамі. Сялянства гэнае вельмі мала, а то і зусім несьвядома сацыяльна і не разумее, якой дарогай яно запраўды здолее здабыць сабе зямлю і ўладу ў дзяржаве.

Вось-жа большая частка так-званых „сялянскіх“ партыяў праз гэтую сваю „сялянскасьць“ маніцца толькі ўвайсьці ў даверые народу і павясьці яго на зусім фальшывы шлях—шлях да яшчэ горшага панявоеленьня працоўных, чым цяперашняе. Справа вось у чым.

Хто чытае газэты, той ведае, у якім палажэньні апынуліся цяпер работніцкія масы Польшчы. Усюды пануе безработніцтва. Зарэгістраваных урадам безработных лічыцца каля 400,000 душ, а такіх, што працуюць па 2—3 дні на тыдзень, дык хіба яшчэ болей. І гэта—толькі па местах. А сколькі працоўных галадуе па вёсках, ня маючы магчымасьці знайсьці працу, гэтага ніхто і ня пробаваў лічыць! Ведама толькі, як паведамляе пэпээсаўскі орган „Robotnik“, што ў 28 польскіх паветах абшарнікі за апошні час выкінулі са службы 3560 парабчанскіх сямей, хаця большая частка гэных парабкоў працавала ў панскіх дварох у працягу дзесяткаў гадоў. Прыкладам, былы міністар земляробства, пан Яніцкі, выкінуў з свайго двара парабка, які працаваў у яго 25 гадоў! Дык ня дзіва, што сярод работнікаў мест і вёсак пачынае ўсе вастрэй выяўляцца незадавольства ўтварыўшымся ў Польшчы палажэньнем, што працоўныя масамі выракаюцца сваіх былых павадыроў—пэпээсаў, якія разам з панамі і фабрыкантамі падзяліліся ўладай над народам.

Буржуазія, якой удалося купіць „казённых“ польскіх сацыялістаў, бачыць гэта дужа добра. Яна бачыць такжа, што ўсё болей і болей пачынае ўзмацоўвацца сувязь паміж работнікамі і сялянамі — асабліва на „крэсах“, дзе нам замест зямлі даюць.. „асаднікаў“! І вось паны і фабрыканты стараюцца разьядзьліць і пасварыць гэтыя дзьве галоўныя сілы народу: сялян і работнікаў. Дык большая частка гэных нібы-то „сялянскіх“ партыяў, што на нашых вачох растуць цяпер, як грыбы пасьля дожджу, і стараецца „услужыць“ ясьнавяльможным, даводзячы, быццам работнікі — гэта ворагі сялян, дык сяляне не павінны ісьці з імі і падтрымліваць іх.

Мэта такое агітацыі—зусім ясная: сяньня рукамі сялян прыдушыць работніцкі рух, а заўтра рукамі работнікаў закабаліць сялян, калі-б тыя пасьмелі падняць галаву і ўваходзіць за сваё!

Як ведама, і сярод беларусаў пачалі працаваць у гэтым кірунку людзі, якія стварылі асобную—нібы-то чыста-сялянскую групу — так-званы „Сялянскі Саюз“. І яны, як тыя польскія прыслужнікі буржуазіі, умаўляюць нашаму сялянству, што работнікі—ворагі яго. Але гэныя беларусы можа іншыя мяркаваньні, чым польскія „сялянскія“ партыі: яны проста і бяскрытычна ўзіраюцца на прыклад нашае суседкі Літвы, дзе ў гэтый мамэнт пануе ў сойме і ўрадзе кулацкая сялянская партыя „хрысьціянскіх дэмакратаў“. Але-ж на дзеле там пануюць не сяляне, а... ксяндзы: ксяндзы камандуюць у сойме, ксяндзы — за міністраў. Вось і нашым беларускім ксяндзом хацелася-бы нешта падобнае завясьці ў нас, дык, як і ў Літве, распачалі барацьбу проці еднасьці сялянства і работнікаў.

Мы супыніліся на гэтых справах даўжэй, дый яшчэ ня раз будзем да іх варачацца затым, што ажыўленьне партыйнае агітацыі — гэта толькі пачатак падгатоўкі да выбарнае агітацыі да новага Сойму ў Польшчы. І мы перасьцерагаем нашае сялянства перад усімі, хто, *жыруючы на пасольскія мандаты*, будзе старацца падбіць сялян да варожасьці і барацьбы з іх натуральнымі і адзінымі запраўднымі саюзьнікамі — работнікамі. Перасьцерагаем, бо ў нашых сялян і ў нашых мястовых і вясковых работнікаў—адзін і той-жа вораг, бо-ж і гэныя работнікі — пераважна выхаджэнцы з нашых вёсак, ці іх сыны і ўнукі.

## Кур'ёзнае выступленьне.

Абшарніцкае „Słowo“ з трыумфам і ў сэнсацыйнай форме—жырным шрыфтам! — зьмяшчае передрук стацьці з „беларускага органу“, у якой рэдакцыя гэтага органу, захопленая „раем“, які беларусы маюць пад Польшай, хоча „ашчасьлівіць“ гэтак сама і Усходнюю Беларусь і дзеля гэтага... далучыць яе да Польскае Рэспублікі.

У гэтым выступленьні найбольш пікантна тое, што „беларускі“ орган, які падае гэтую геніяльную думку, ня што іншае, як—новая газэта „доктара“ Паўлюкевіча „Беларускае Слова“, выдаваная коштам польскага ўраду.. І зроблена гэта—у той час, калі польскі ўрад стараецца завязаць „добрасуседзкія адносіны“ з СССР! Відаць, пан міністар унутраных спраў, Рачкевіч, пад высокай рукой якога „працуе“ Паўлюкевіч, вядзе адну замежную палітыку, а міністар заграйнічных спраў, Скшыньскі,—другую!..

## Новае экспозэ мін. Зьдзеховскага.

У бюджэтнай камісіі мін. Зьдзеховскі высьвятліў у абшырным выкладзе ўсе тыя папраўкі, якія ён зрабіў у бюджэце, апрацаваным папярэднім міністрам Грабскім, а разам даў агляд фінансава-эканамічнага стану Польшчы.

### Плады гаспадаркі Ул. Грабскага.

Пан. мін. дае точныя лічбы, характэрызуючыя гаспадарку прэм. Грабскага.

За першыя 6 месяцаў 1925 г. на пакрыцьце гаспадарчага недахвату (купляліі заграніцай больш, як прадавалі, дык пераплацілі на гэтым з запасаў) у суме 526 мільёнаў злотых пайшлі ўсе запасы валютаў Польскага Банку.

Бюджэтны недахват дайшоў да 290 мільёнаў злотых. Дык ня дзіва, што злоты — бяз усякай „нямецкай інтрыгі“—паляцеў быў аж да 13 за даляр, і толькі вельмі рашучымі мерамі міністар Зьдзеховскі здолеў падняць злоты да 7.30 за даляр.

У скарбовай касе папярэдні мін. Зьдзеховскага пакінуў толькі даўгі: 41 мільён недахвату і 55 мільёнаў даўгоў за даставы, ня лічучы драбнейшых. Аднак, цяпер Польскі Банк неяк паправіўся, і пакрывае ўсю патрэбу ў валютах у краі, а яго гарантыйны фонд дайшоў ізноў да 39.9 проц.

### Ці вернецца злоты да парытэту?

На гэтае пытаньне міністар Зьдзеховскі, як добры і спрытны слуга польскай буржуазіі, даў вельмі цікавы адказ.

Міністар будзе ўтрымліваць пакуль-што злоты на такім роўні, каб пакупная сіла злотага ў краі была большая, чым заграніцай. Дзеля гэтага першым чынам п. міністар дапаможа прамысловцам паменшыць кошты прадукцыі — коштам работнікаў, зьніўшы адначасна з капіталістаў розныя цяжары і даўшы ім таньнейшы крэдыт з крыніцаў Скарбу. Тады толькі міністар патрэбуе

# Карэспандэнцыі.

## Тэатр на вёсцы.

(Ляхавіцкая гм., Баранавіцкага пав.).

Падзялюся з чытачамі адным добрым, радасным фактам.

Маю на мысьлі вясковы тэатр, ці—прасьцей — спэктаклі, якія адбыліся на калядныя сьвяты ў некаторых вёсках нашае гміны. Гэта надта добрая праява, якая сьведчыць, што нашая вясковая моладзь, хоць і мае многа заган, з якіх першае месца займаюць карты, гарэлка і часьцю „музыкі“, усё-ж прадстаўляе здаровы элемэнт, падаючы многа надзей на лепшае, сьвятлейшае заўтра, маючы ня мала энэргіі. Добра ведама кожнаму, якую энэргію, якую сільную волю трэба мець, каб перамагчы ўсе перашкоды і наладзіць сякі-такі спэктакль у глухой вёсцы, дзе не хватае кніжкі, дзе нямашака добрага кіраўніка-рэжысэра, дзе з сьвечкаю ня знойдзеш адпаведнага будынку. А што гаварыць пра дэкарацыю, грым і галоўнае дазвол. Ах! гэты дазвол, колькі ён вымагае клопату, працы: трэба колькі разоў езьдзіць за 30-40 вёрст у Староства, пісаць просьбу, якая можа разоў тры вярнуцца, бо або ня гэтак напісана, або бракуе „штэмплёвае“ аплаты, ці ўрэшце перапісвай цэлую кніжку. Нашы аматары, дзякуючы некаторым асабліва энэргічным адзінкам, змоглы ўсе пераліченыя перашкоды, дапялі мэты.

Гэтак у засьц. Зубелевічах на куцьцю перад каталіцкім Новым Годам пастаўлена была п'еса „Птушка шчасьця“. Ф. Аляхновіча, у в. Канюхох на трэці дзень праваслаўных Каляд і на праваслаўны Новы Год быў пастаўлены цэлы рад п'ес: „Пашыліся ў дурні“, „Модны шляхцюк“, „Пасланец“, „Зьбянтэжаны Саўка“ і др., у вёсцы Шчаснавічах таксама быў спэктакль на праваслаўныя Тры Каралі — адыгралі „Заручыны Паўлінкі“. У Канюхох і Шчаснавічах першы раз былі гэткія „фокусы“. Міла і прыемна было паглядзець на вясёлыя твары прысутнае публікі, якая складалася, пачынаючы ад наймалодшых дзяцей і кончыўшы старым сівым дзедам. Народ на свае „ціятры“ валіў натоўпам, як на пажар, або як на работу, выганяны солтысам.

**Альфа.**

## „Сьвіньня ў школе“.

(З Дзісеншчыны).

Мо' хто памысьліць, што ў „нашых“ школах пачалі вучыць сьвіней? Не—да гэтакае „цывілізацыі“ „нам“ яшчэ далёка. Справа троху прасьцей. Як расказвалі людцы на кірмашу ў Празароках, дык у школе гэтага мястэчка, у адных з сяней— што вядуць у школу, кіраўнік гэтае школы блізу месяц трымаў сьвіньню. Дзьверы ў сенцы ад панадворку былі зачынены і ўваход да сьвіньні ішоў праз клясу. Праз клясу насілі сьвіньні ежу і ўсё, што патрэба. Ну чым ня „культура“. І дзецям весялей і свіньня, слухаючы лекцыяў, набярэцца розуму.

Гожа тутака дадаць выпіску з „Dz. Wil.“, які ў № 258 10/XI м. г. піша, што дахтары ў пачаткавых школах зрабілі ў гэтым вучэбным годзе санітарныя агледзіны ў 46 школах м. Вільні і на агульную лічбу 9870 дзяцей — знайшлі: дзяцей— брудных 4267, вшывых 1783, з хваробамі скуры 169, сухотнікаў і падазроных на сухоты 83, з хваробамі носа 71, вушоў—40, трахомных—26 і хворых на вочы 67. Брудныя падлогі знайшліся ў 5 школах, а клязэты дык у 21 школе ніжэй усялякай антысанітарнасьці. Камэнтары іншыя не патрэбны. Калі „асьвяціцелі“ нашых дзяцей пачнуць ставіць ім пад нос свіней, а там кароў, коней і г. д. — дык няма чаго і дзівіцца гэтакаму вялікаму ліку хворых дзяцей.

Што на гэтае „urząd gminny“ — бо будынак школы „жондовы“, мясцовая санітарная камісія, а ўрэшце павятовы інспэктар?!

**Зязюля.**

## Безадказнасьць паліцыі.

(Жыдамлянская гм., Горадзенскага пав.).

5.XII.25 г. быў выпушчаны з вастрогу Сьцяпан Банковіч з в. Машталеры. Банковіча абвінавачвалі за раскіданьне камуністычнай літэратуры.

Пасьля звальненьня з вастрогу яго адправілі на Абухоўскі пастарунак, дзе камандант паліцыі сказаў яму два разы ў тыдні—у дні, у якія мае час,—яўляцца на пастарунак для паверкі. І вось Банковіч яўляўся толькі не ў адны і тыя самыя дні.

Адзін раз, калі Банковіч, прышоўшы на пастарунак, зьвярнуўся да старшага паліцыянта, Даніляўскага, каб той адзначыў яўку, — то пал. Даніляўскі, не ўпадабаўшы, што Банковіч ходзіць не ў адны і тыя самыя дні, пачаў вызначаць сталыя дні, калі Банковіч ня мае часу. Тады Банковіч сказаў, што ў гэтыя дні ён ня можа, бо мусіць зарабляць на пражыцьцё, дый—да таго—сам камандант ня вызначаў сталых дзён,—дык чаму-ж паліцыянт гэта робіць? Не пасьпеў сказаць гэтага Банковіч, як паліцыянт Даніляўскі так „заехаў“ яму ў вуха, што лопнула барабанная балонка. Банковіч зьвярнуўся з скаргаю на пал. Даніляўскага да сьледаваценя, але той парадзіў Банковічу падаць на паліцыянта ў суд. Ды дзе-ж тут бяз грошай нашаму брату судзіцца ды яшчэ з паліцыяй?

І дзе шукаць праўды і справядлівасьці?

**Нёман.**

## „П а л у ч к а“.

(Слонімшчына,—Мястэчка Жыровіцы).

Сем гадзін увечары. Мароз з ветрам, з пазёмкай. Каля будыку грамада людзей, розных па гадох. Па вопратцы відаць, што гэта люд вясковы, працоўны.

Падходжу—пытаюся.

Гэта рабочыя—сяляне і сялянкі з ваколічных вёсак чакаюць „палучкі“ ад „szkoły rolniczej“.

Аблепленыя сьнегам, белыя, як сьмерць, бегаюць, скачуць яны, каб ня зьмерзнуць.

Ад 3 гадзін ужо чакаюць, што вось-вось выклічуць—заплацяць.

Але „панкі“ мусіць добра ведаюць, што „быдла“ выцярпіць,—і не сьпяшаюцца.

Тут-жа два паліцыянты з „карабінамі“—дзеля падтрыманьня парадку.

З канцэлярыі выходзіць дзяўчына-работніца. Яе жыва абступаюць—пытаюцца.

— Ну што?.. Як?.. Калі будзе „палучка“?...

— Rozejść się!.. раздаецца каманда.

Зьмерзлыя, белыя, як нябошчыкі, з нізка апушчанымі галавамі—разыходзяцца, нічога не дабіўшыся.

— Там у тую суботу!.. хтосьці іранічна абяцаў.

— Не адна ўжо субота была, брат, не адна яшчэ і будзе!.. як бы ў адказ праняслося з ветрам.

— Жартачкі: ўлетку рабіў, а к Калядам ня зышчу грошаў... Пасталоў ня хопіць хадзіць толькі. Чакай яе—як з мора пагоды. Чаму нам не чакаюць, а прыедуць—давай, дзе хочаш бяры? Ня маеш, дык пішуць,—прадаюць, апошняе забіраюць!

— Вось дык „szoła rolnicza“... плаціць папанску... папрафэсарску... Нават пакою не адвядуць пад пачакальку, маючы гэтулькі памяшчэньня! Як сабака чакай на дварэ, пакуль скажуць: на другую суботу!—

Жаліўся нехта з рабочых ужо далёка.

**Сымон Калюта.**

# З Радавае Беларусі.

## Скарынінскі юбілей на бацькаўшчыне Скарыны.

Урачыстае сьвяткаваньне 400-лецьця беларускага друку адбылося ў Полацку, на бацькаўшчыне першага друкара Беларусі дружна і з уздымам. Акруговая юбілейная камісія камандыравала ад сябе прадстаўнікоў у раёны для ўдзелу ў тамтэйшых урачыстасьцях.

Сам-жа Полацак яшчэ з 29 сьнежня распачаў гэтае сьвята: афішы і лёзунгі былі выклеены па ўсяму месту, газэта „Полацкі Пахар“ зьмясьціла абвесткі і шэраг артыкулаў на тэмы сьвята.

29-га ж вечарам адбылася ўрачыстасьць у пэдтэхнікуме: былі прывітальныя выступленьні і даклады т. т. Шчакаціхіна (дэлегата Цэнтр. юбіл. камісіі з Менску) і Мялешкі, адбыўся спэктакль і канцэрт хору тэхнікуму.

30-ж сьнежня вечарам адбылося ўрачыстае паседжаньне гарсавету разам з прадст. партыйных, прафэсыянальных, вайсковых і камсамольскіх арганізацыяў пад старшынствам т. Сташэўскага, старшыні акруг. выкан. камітэту.

Пасьля спэктаклю і выступленьня хору была зроблена пастанова аб названьні полацкае друкарні імем Фр. Скарыны і аб пабудаваньні памятніка ў Полацку.

## Навуковы зьезд.

17 студзеня ў памяшканьні інстытуту Беларускай Культуры адчыніўся зьезд археолёгаў і археографаў БСРР.

На першым сваім пасяджэньні зьезд заслухаў даклады: Даўгялы аб „Літоўскай Мэтрыцы“, праф. Доўнар Запольскага аб „Матар'ялах па гісторыі Беларусі ў архівах Польшчы“ і прыват-даўцэнта Смаленскага ўнівэрсытэту Ляўданскага аб „Беларускіх гарадзішчах“.

Пажадаем, каб гэты зьезд прысьпешыў склісканьне і даўно абвешчанага міжнародавага зьезду беларусаведаў, які ўсё неяк адкладаецца і адкладаецца!

## Беларуская мова для дактараў.

Для студэнтаў мэдыцынскага факультэту пры сканчэньні курсу ўстанаўляецца экзамен па жывой бел. мове. Студэнты, якія выявяць слабыя веды па беларусазнаўству, будуць затрымліваццца яшчэ на адзін год.

Пастанову гэтую трэба шчыра прывітаць, бо-ж новыя дактары павінны будуць абслугоўваць перад усім беларускую масу і мусяць ведаць мову сваіх кліентаў.

## Правядзеньне беларусізацыі.

На паседжаньні камісіі ЦВК БСРР па правядзеньню нацыянальнай палітыкі быў заслуханы даклад аб правядзеньні беларусізацыі ва ўстановах Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня.

Камісія канстатуе, што праца ў гэтай галіне амаль не вядзецца. Знаюць беларускую мову толькі 4 працаўнікі; агульны аддзел пераведзены на 20 працантаў на беларускую мову, аддзел дзяржаўнага забясьпечаньня—на 5 пр., фінансавы—на 10 прац. Яшчэ горш абстаіць з „БИКО“ і з акруговымі аддзяленьнямі, за выключэньнем Калінінскай акругі.

Камісія пастанавіла тэрмінова распачаць правядзеньне беларусізацыі ўсяго апарату, дзеля чаго ўстанаўляецца пэўны плян. У першую чаргу павінны ўзяцца за вывучэньне беларускай мовы адказныя працаўнікі.

Праз 2 месяцы будзе зноў праведзена праверка ведаў беларускай мовы.

# Ад Адміністрацыі.

Даводзім да ведама ўсіх паважаных гр. Падпішчыкаў, якія просяць, каб на іх газэтах „*пісаць дакладныя адрасы*“, што гэта абавязаны рабіць паштовыя агенцыі, каторыя атрымліваюць ад рэдакцыі „карты прэнумараты“ г. з. сьпіскі падпішчыкаў і іх дакладныя адрасы, паводле якіх павінны раздаваць газэты атказуючы за акуратнасьць рассылкі.—Кожны, хто не атрымлівае газэты, павінен зьвярнуцца на сваю пошту і вымагаць, каб яму паказалі „карту прэнумэраты“.

Хто з падпішчыкаў газэты зусім не атрымоўвае, і на сваей пошце прычыны выясьніць ня зможа, няхай зьвяртаецца ў адміністрацыю. Коратка і ясна выпажыўшы справу, на канвэрце трэба рабіць надпіс „Reklamacja“ —і гэтакі ліст слаць бяз маркі.

## „Дараднік вясковага гаспадара“.

На-днях выйдзе ў сьвет 1-ы нумар выданьня НКЗ—„Дараднік вясковага гаспадара“ пад рэдакцыяй т. т. Прышчэпава, Смоліча і Тупяневіча

Выданьне мае мэтай папоўніць недахват с.-г. літ„ратуры матар'яламі гаспадарчага і справачнага характару, блізка зьвязаным з прыродна-эканамічнымі ўмовамі краіны.

## Беларуска-жыдоўскі слоўнік.

Інбелкульт падрыхтаваў да друку беларуска-жыдоўскі слоўнік, які зьмяшчае **15 тысяч слоў.** Апроч гэтага, рыхтуецца да друку жыдоўска-беларускі слоўнік.

## Пабудова лазьняў.

Рада Нар. Камісараў пастанавіла выдзеліць з фонду льготнага і бясплатнага водпуску лесу частку лесасек для будоўлі ў Мазырскай акрузе лазьняў.

Эканамічнай нарадзе БСРР даручаецца ў 2-х тыднёвы тэрмін распрацаваць пытаньне, каб выдзяленьне гэтага лесу не адбілася шкодна на інтарэсах жыхарства, а таксама высьветліць пытаньне аб пабудове лазьняў у іншых акругах.

У мэтах гігіены трэбала-б на гэту справу зьвярнуць увагу ўсюды.

# Беларусы у Нямеччыне.

## Работніцкая прэса аб беларусах.

У толькі што вышаўшым студнёўскім нумары часопісі „Arberter Illustrierte Zeitung“ вызначана мейсца Савецкай Беларусі ў асобе яе вядомых культурных і палітычных дзеячаў, якія наведаліся нядаўна з навуковай мэтай у шмат якія эўрапэйскія дзяржавы, а разам з тым і ў Нямеччыну. У гэтай часопісі на надзвычайна прыгожым і выразным здымку зьмешчаны Цішка Гартны, Янка Купала і Міхась Чарот. Пад здымкам надпіс, які пачынаецца словамі: „Тры выдатнейшыя прадстаўнікі Савецкай Беларускай Рэспублікі ў Бэрліне“,—і далей належныя тлумачэньні аб кожным пралетарскім дзеячу ў паасобку.

# Юрыдычныя парады.

## Г-цы Настулі Шуглі.

*Запытаньне*: Гаспадар-прымак памёр у 1922 г., пакінуўшы на гаспадарцы падчарыцу і дачку, і ім у спадчыну $7^1/_2$ дзесяцін зямлі па іх роднай матцы, даўно памёршай. Праз паўгода па сьмерці бацькі дачка вышла замуж, узяўшы палавіну зямлі, каня і карову. У 1925 годзе яна памёрла. Перад сьмерцяй мужык не хацеў яе даглядаць, і яна жыла ў няроднай сястры, каторай і адпісала $3^1/_2$ дзесяціны свае зямлі, каня і карову. Пачуўшы аб гэтым, мужык памёршай прадаў каня і карову.

Ці магу я адсудзіць ад яго адпісаных мне каня і карову?

Ці можа адсудзіць ад мяне частку зямлі мая родная сястра, якая жыве замужам 22 годы?

Ці трэба зацьвердзіць тэстамант і ў які час?

*Адказ*: Тэстамант трэба ў працягу аднаго году ад сьмерці адпісаўшае прадставіць у Акружны Суд дзеля зацьверджаньня.

Каня і карову даходзіць ня можна.

Зямлі сястра не адсудзіць.

## Г-ну Коска.

*Адказ*: Трэба будзе плаціць каля 60 руб. ці каля 150 злотых.

Рэдактар-Выдавец: Ян Марцінеўскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.